

DC COMICS

BATMAN

35 $4.99 US

SNYDER
CAPULLO
MIKI
PLASCENCIA

THE NEW 52!

DEC 2014

DIRECT SALES

RATED T TEEN

MONSTERS OF THE MONTH
VARIANT COVER

ГОТЭМ, ЗАРАЗ.

Готэмскі Каралеўскі тэатр быў пабудаваны чатыры года раней, хутка пасля падзей, якія сталі вядомы як Готэмскі «Нулявы год».

Тэатр быў часткай ініцыятывы па культурнай рэканструкцыі, другім этапам аднаўлення.

Ідэя была ў тым, што зараз, калі ўся інфраструктура горада адбудавана нанова, прыйшоў час аднаўляць культурныя аб'екты Готэма, больш і лепш, чым раней. Рабіць з іх месцы, куды людзі Готэма могуць уцекчы, каб выказаць свае надзеі і страхі.

Я пабываў у Каралеўскім тэатры і заўважыў, што ўсё больш і больш грошаў расходуецца на будаўніцтва. За тры месяца мы перавысілі бюджэт амаль на трыста тысяч даляраў.

Я асабіста адправіўся даведацца, што адбываецца.

Архітэктарам быў мой сябар **Уэйд**. Калі я спытаў яго пра грошы, ён указаў пальцам дагары.

Ён змайстраваў спецыяльную **страховачную** прывязь для тэатра. Уэйд патлумачыў, што яны ставілі арэста і ў канцы пастаноўкі з'яўлялся «дух з машыны».

Калі бог Апалон спускаўся з неба, каб выратаваць герояў ад **знішчэння**.

«Брус, – сказаў ён, – пасля ўсяго, праз што мы прайшлі, я проста хацеў, каб усё выглядала рэальным. Я хачу, каб кожны ў тэатры **паверыў**, што бог спусціўся з неба, каб дапамагчы. Я проста хацеў, каб яны адчулі сябе з бяспецы».

І ў рэшце рэшт...

...ШТО Я МОГ СКАЗАЦЬ НА ГЭТА?
ПАЎТАРАЮ, ВІДАВОЧНА, ХТОСЬЦІ НАНЕС ХІМІЧНЫ ЎДАР ПА ЦЭНТРЫ ГОТЭМА.
ЛІТАРАЛЬНА НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН НАЗАД БЕЗ ПАПЯРЭДЖАННЯЎ ВОБЛАКА ГАЗА З'ЯВІЛАСЯ З КАНАЛІЗАЦЫЙНЫХ ЛЮКАЎ І ЦАЛКАМ ПАКРЫЛА ПРЫКЛАДНА ДЗЕСЯЦЬ КВАРТАЛАЎ.
ПАКУЛЬ ПАЛІЦЫЯ СПРАБУЕ ВЫЧЫСЦІЦЬ МЯСЦОВАСЦЬ, ТУТ НАЗІРАЕЦЦА САПРАЎДНАЕ ПЕКЛА.
НА ШЧАСЦЕ, ЗДАЕЦЦА, НА ДАДЗЕНЫ МОМАНТ АМАЛЬ УСЕ **ЭВАКУІРАВАНЫ** З НЕБЯСПЕЧНАГА РАЁНА.
БЕРАЖЫ БОЖА МУЖЧЫН І ЖАНЧЫН ПАЛІЦЫІ ГОТЭМА, ЛОЛА. АДНАК У НАС ЁСЦЬ ЯШЧЭ БОЛЬШ ДЗІЎНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ... ЁСЦЬ ПЕРШЫЯ СПРАВАЗДАЧЫ... У ГОТЭМСКІМ АДДЗЯЛЕННІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЯСПЕКІ...
...ШТО Ж, ГЭТА ДЗІЎНА. ВІДАЦЬ, САМ ГАЗ, ПАВОДЛЕ ПЕРШАСНЫМ ТЭСТАМ, АКАЗАЎСЯ **БЯСШКОДНЫ**.
БЯСШКОДНЫМ?
«ГАЗАВАЯ АТАКА БЯСШКОДНЫМ ГАЗАМ? ВІДАЦЬ, ХТОСЬЦІ ПРОСТА ХАЦЕЎ **АЧЫСЦІЦЬ** МЕСЦА...»
«КАЛІ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ПЕРЫМЕТР, ЯНО МАЕ ПЭЎНЫЯ РЫСЫ. КОЛА. ЯК **СТАДЫЁН**. ЦІ...»
«...**АРЭНА**».

ДАВАЙ! ТОЛЬКІ ТЫ І Я! ЛІЧЫШ, ЗМОЖАШ УЗЯЦЬ МЯНЕ? ТУТ? У **МАІМ** ГОРАДЗЕ?! ТАДЫ ВЫХОДЗЬ НА РЫНГ!




# БЭТМЭН: КАНЕЦ ГУЛЬНІ

## частка першая

# BATMAN: ENDGAME

## PART ONE

WRITER SCOTT SNYDER
PENCILLER GREG CAPULLO
INKER DANNY MIKI
COLORIST FCO PLASCENCIA
LETTERER STEVE WANDS
COVER CAPULLO, MIKI & PLASCENCIA
VARIANT COVER BY ANDY KUBERT & BRAD ANDERSON
MONSTER VARIANT BY BRIAN STELFREEZE
ASSISTANT EDITOR MATT HUMPHREYS
EDITOR MARK DOYLE
BATMAN CREATED BY BOB KANE

THE EVENTS OF THIS STORY TAKE PLACE AFTER BATMAN ETERNAL


ПРАЦЯГВАЙ! І НЕ ЦЭЛЯЙ У **СЯРЭДЗІНУ**! ЦЭЛЯЙ У СТЫКІ ІХ КУПАЛАЎ! У РАПАЛІІ! ІХ **АДЧУВАЛЬНЫЯ** ВУЗЛЫ
ІХ ВЕЛЬМІ ШМАТ!
ПРАСОЎВАЙСЯ ДАЛЕЙ, **ЛАРК**! ІХ КАРАБЕЛЬ...


БЭТМЭН, НЯМА КУДЫ ПРАСОЎВАЦЦА! ЯНЫ **ПАЎСЮЛЬ**!


Я НЕ ПРЫМУ ГЭТАГА! ПЭНІ-АДЗІН! НА СУ-ВЯЗЬ, ПЭН...
**ААА! НЕ! АААК!**
СЭР! ВАШЫ ЖЫЦЦЁВЫЯ ПАКАЗЧЫКІ, СЭР!


СТАРАЯ ВЕЖА ЎЭЙНАЎ. 13 ПАВЕРХ.
29 ХВІЛІН РАНЕЙ.
СЭР?..
...
ПРАБАЧ, АЛЬФРЭД. ГЭТА ІН'ЕКЦЫЯ ПАВІННА ПАКОНЧЫЦЬ З **ВОБРАЗАМІ**.
НЕ ЎЯЎЛЯЮ, ШТО ГЭТА МОЖА БЫЦЬ ПРЫЕМНА – ЗНОЎ І ЗНОЎ ПЕРАЖЫВАЦЬ СВАЮ **СМЕРЦЬ**, ЯКІМІ Б **ЯСКРАВЫМІ** НІ БЫЛІ ВАРЫЯЦЫІ.


ЯНЫ ЯСКРАВЫЯ. ШТАМ «**КАСАНДРА**» ТАКСІНА СТРАХА... ПАВІНЕН ЗГАДЗІЦЦА, КРЭЙН – МАСТАК.
«ПЭЎНА, ЁН ЗВЯЗАНЫ З МЕХАНІЗМАМ, ЯКІ ПРЫМУ-ШАЕ НАС ПРАСЫПАЦЦА, КАЛІ МЫ ПАМІРАЕМ У СНЕ. МНЕ ЗДАЕЦЦА, ЁН ЗАСНАВАНЫ НА НЕЙКІХ СІНТЭЗАХ НЕЙРАХІМІЧНЫХ ПРАЦЭСАЎ».
«ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, ВЫ ДОБРА СЯБЕ АДЧУВАЕ-ЦЕ?»


ГЭТА ПРОСТА КАШМАРЫ. А ЗАРАЗ ДЗЕНЬ... КАЛІ НЕ ПА-МЫЛЯЮСЯ...
РАСКАЖЫ ЯШЧЭ РАЗ, БРУС, ЯК АТРЫМАЛАСЯ, ШТО З УСІХ ТВАІХ БЭТ-БАЗ, ГЭТА – ПЕРШАЯ З ВОКНАМІ?
СТАРЫЯ ЗВЫЧКІ, **ДЖУЛІЯ**.
ШТО Ж, У ІХ НЯМА НІЧОГА СТАРАГА. ЦАЛКАМ АДНАБАКОВЫЯ. ЖЫДКІЯ КРЫСТАЛЫ НА СІЛІКАТАХ. КАЛІ АДБУДЗЕЦ-ЦА НЕЙКАЕ ЗЛАЧЫНСТВА, ТЫ ЎБАЧЫШ ЯГО НА ТРОХ-МЕРНАЙ СХЕМЕ ГОРАДА.


ХАХ. Я ЎРАЖАНЫ. ХО-ЧАШ ПРАЦАВАЦЬ ПРЫСЛУЖНІКАМ?
ПРАБАЧЦЕ, КАЛІ ЛАСКА!
ВОСЬ **ГЭТА** САПРАЎДЫ ЖАХ. Я ТУТ, ПАКУЛЬ ТАТУ НЕ СТАНЕ ЛЕПШ, БРУС, АКРАМЯ ГЭТАГА, МЯНЕ ЧА-КАЕ ЦУДОЎНАЯ КВАТЭРА Ў УОЛТЕМСТОЎ. ДАЛЁКА АД УСЯГО, ШТО МАЕ ФОРМУ КАЖАНА.


ТРЭБА ЗАЎВАЖЫЦЬ, ЯНА МАЛАЙ-ЧЫНА.
НАРЭШЦЕ МЫ ПАЗБАВІЛІСЯ АД УСІХ ГЭТЫХ САВІНЫХ ГЛУПСТВАЎ. АЛЕ ТАК, ПАСЛЯ ЎСЯГО, ШТО АДБЫЛАСЯ ЗА АПОШНІ ГОД, МНЕ ЛЕПШ, КАЛІ Я ЗНАХОДЖУСЯ Ў ЦЭНТРЫ ГОРАДА, АБАРОНЕНЫ ЎСЁЙ ГЭТАЙ ЦЯЖКАЙ АРТЫЛЕРЫЯЙ У НОВЫМ БУНКЕРЫ ЎНІЗЕ.
І ТРЭБА ПАГАДЗІЦЦА, ШТО ГЭТА ПРАКТЫЧ-НА, РАЗМЯШЧАЦ-ЦА НАД СТАРЫМІ ТАНЭЛЯМІ МЕТРО.


ЦІ ЎБАЧУ Я Ў ХУТКІМ ЧАСЕ БЭТ-ЦЯГНІК?
БЭТ-МАНАРЭЛЬС, ДАРЭЧЫ. РЭГІСТРЫРУЮ ГАНДЛЁВЫ ЗНАК.
ПАЦЕШНА ТОЕ, ШТО Я НАВАТ НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ЦІ САПРАЎДЫ ГЭТА ЖАРТ.


ХАХАХА!
ХАХАХА! Я ТАК САМА. НЕ СМЯШЫ МЯНЕ. МНЕ БОЛЬНА СМЯЯЦЦА. ХА.


О, МАЙСТАР БРУС. ВАМ ЗАЎСЁДЫ БОЛЬНА.
ТОЛЬКІ ПАГЛЯДЗІЦЕ. ГЭТЫ ГОРАД ПЕ-РАЖЫВЕ НАС УСІХ. ЁН МАЛАДЗЕЕ, МЫ СТАРЭЕМ.


ТЫ СТАРЭЕШ. МНЕ СТАНОВІЦЦА ЛЕПШ.
Я Ў РОСКВІЦЕ СІЛ.
ПРАБАЧЦЕ, СЭР. Я НЕ ПАЧУЎ ВАС СКРОЗЬ УСЕ ГЭТЫЯ БІНТЫ. ПРОСТА ПАМЯТАЙЦЕ, ШТО ВЫ НЕ БОГ, МАЙСТАР БРУС, ВЫ...
ХЛОПЧЫКІ, ВЫ АБОДВА БУДЗЕЦЕ ЖЫЦЬ АДВЕЧНА. А ЦЯ-ПЕР СКАЖЫЦЕ МНЕ...


...ГЭТА ШТО ЯШЧЭ ТАКОЕ?


RAHHH!




УХ!
КХА! ДЫЯНА...
СЦІХНІ, БРУС. Я ЎСЁ РОЎНА НЕ ЗБІРАЮСЯ ЦЯБЕ СЛУХАЦЬ.


АЛЕ НА МАЮ ДУМКУ...
...ТАБЕ ЎРЭШЦЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА!
АААААwithin!

УХ!

ТЫ ТОЛЬКІ АДЦЯГВАЕШ НЕПАЗБЕЖНАЕ, БРУС.
ЧОРТ ЦЯБЕ БЯРЫ, ТЫ МОЖАШ ПРОСТА ПАГАВАРЫЦЬ СА МНОЙ?

ШТО ТУТ АДБЫВАЕЦЦА?

УСЁ ПРОСТА, БРУС. ЛІГА ПРЫЙШЛА ЗРАБІЦЬ ТОЕ, ШТО ХАЦЕЛА ЗРАБІЦЬ ЎЖО ДАЎНО...

...ЗАБІЦЬ ЦЯБЕ.

БРУС, БРУС, ТЫ Ў ПАРАДКУ? ЯКОГА ЧОРТА ЯНА...
ДЖУЛІЯ! ВЫ З АЛЬФРЭДАМ ПАВІННЫ АКТЫВІРАВАЦЬ ПЛАН «ФЕНРЫР».

КХА... ВЫ ЎПЭЎНЕНЫЯ? ВЫ ЗМОЖАЦЕ ЗЛАДЗІЦЬ З КАСЦЮМАМ?

ПРОСТА ВЫКОНВАЙЦЕ! ВЫПУСЦІЦЕ ЧОРТАЎ ГАЗ!

ЗАРАЗ.

ЯНА МАЕ НАМЕР ЗАБІЦЬ ЦЯБЕ, БРУС.

У ЯЕ НЯМА СУМНЕВУ НА ГЭТЫ КОНТ. ЗРЭНКІ НЕ ПАШЫРАНЫЯ. ЯНА РУХАЕЦЦА БЕЗ ХІСТАННЯЎ. ШТО БЫ ГЭТА НА ЯЕ НЕ ЎЗДЗЕЙНІЧАЛА, АЛЕ ЯНА ТРОХІ БОЛЬШ ЗАПАВОЛЕНАЯ, ЧЫМ ЗВЫЧАЙНА, АЛЕ ФАКТ ЗАСТАЕЦЦА ФАКТАМ...

...ЯНА Б'Е ПА-САПРАЎДНАМУ.

ТАМУ І Я ПАВІНЕН.



ДЫЯНА, ТЫ ПАВІННА ПЕРАМАГЧЫ ТОЕ, ШТО КІРУЕ ТАБОЙ! ПРАШУ, СКАЖЫ, ХТО ЗРАБІЎ ГЭТА З ТАБОЙ?

А МОЖА НІХТО СА МНОЙ НІЧОГА НЕ ЗРАБІЎ, БРУС. ТЫ РАЗГЛЯДАЎ ТАКІ ВАРЫЯНТ? МАБЫЦЬ, Я ПРОСТА **НЕНАВІДЖУ ЦЯБЕ**. МАБЫЦЬ, МЫ ЎСЕ НАНАВІДЗІМ І ГЭТА ПРОСТА **КАНЕЦ**.












АРТЭФАКТ ЗАВЕЦЦА «ПОЛАГ ВЭЛЮМУ», І ЁН БЫЎ ВЫТКАНЫ ГЕФЕСТАМ У МОМАНТ СУМНЕВУ, ХУТКА ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЁН ВЫКАВАЎ ЯЕ **ЛАСО**. ЁН ВЫКАРЫСТОЎВАЎ ЗВАРОТНУЮ ВЕРСІЮ ТАГО Ж ПЛЯЦЕННЯ.

КАЖУЦЬ, ЯНО ЗРОБЛЕНА З ПОЎСЦЬ АВЕЧКІ, З ДАПАМОГАЙ ЯКОЙ АДЫСЕЙ ПАДМАНУЎ ЦЫКЛОПА. МНЕ СПАТРЭБІЛАСЯ АМАЛЬ ДВА ГАДЫ, КАБ АДСАЧЫЦЬ ЯЕ НА МАГІЧНЫМ ЧОРНЫМ РЫНКУ.

ГЭТЫ КАСЦЮМ НЕ ПРОСТА БРАНЯ.

ЁН ПРЫЗНАЧАНЫ ДЛЯ **ВАЙНЫ**. З САМЫМІ МОЦНЫМІ ГЕРОЯМІ ПЛАНЕТЫ.

БАЗА, ВЫ БАЧЫЦЕ ЯШЧЭ КАГО-НЕБУДЗЬ?

НЕ, СЭР, ПАКУЛЬ Н...












ДАЛЕЙШЫЯ ПАДЗЕІ АДБЫВАЮЦЦА ХУТЧЭЙ, ЧЫМ Я МАГУ **ЎСВЯДОМІЦЬ**.

Я АДДАЎ НА ГЭТЫ КАСЦЮМ БОЛЬШ, ЧЫМ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ АДСОТКАЎ КРАІН СВЕТУ АДДАЮЦЬ НА СВАЕ АРМІІ. І ЗНАЧНАЯ ЧАСТКА ГЭТЫХ ГРОШАЎ ПАЙШЛА НА ПРАТАКОЛ, НАКІРАВАНЫ НА **АДНАГО** ЧАЛАВЕКА...

...КАБ **СЕРВЕРА** БЫЛІ ДАСТАТКОВА ХУТКІМІ ДЛЯ ЯГО...

...ХУТЧЭЙ РЭАКЦЫІ **ЛЮБОГА** ЧАЛАВЕКА...

...ДАСТАТКОВА ХУТКІМІ, КАБ ПАКАЗВАЦЬ ЯГО РУХІ, ПРЫМАЮЧЫ ДА ЎВАГІ, ШТО ЁН НЕ НА АПТЫМАЛЬНАЙ ХУТКАСЦІ...

...А ПОТЫМ СТРЭЛІЦЬ ПАЗБАЎЛЕНЫМ ТРЭННЯ ПАКРЫЦЦЁМ.

...ДАКЛАДНА ТАМ, ДЗЕ ПАТРЭБНА...

...РАНЕЙ, ЧЫМ ЁН АДРЭАГУЕ. АТАКА НАСТОЛЬКІ ІМГНЕННАЯ...

...ШТО ЎСЁ АДБУДЗЕЦЦА ХУТЧЭЙ, ЧЫМ Я ДАВЕДАЮСЯ ПРА ГЭТА.

БРУС.

TNK


ДЫЯНА. БАРЫ.
ЦЯПЕР АРТУР...
ЗАНАДТА ШМАТ ДЛЯ ЛЮБОГА ЧАЛАВЕКА-ТЭЛЕПАТА. І ДЫЯНА АБАРОНЕНА АД МАГІІ... ХТО, ЧОРТ БЯРЫ, РОБІЦЬ ГЭТА З ІМІ?
...ДОСЫЦЬ ТРУКАЎ І ГАДЖЭТАЎ.
ЦЯПЕР ПАВЯРНІСЯ І СУСТРЭНЬ МЯНЕ ТВАРАМ ДА ТВАРУ, КАЛІ Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ХОЦЬ ТРОХІ ГРОБАНАГА ГОНАРУ, І МЫ...
PFFFFT




У ГЭТЫМ УСЯ СПРАВА, АРТУР. У ВУЛІЧНАЙ БОЙЦЫ НЯМА ГОНАРУ.


ГЭТА ПЕНА СА ЗДРОБНЕНАГА КАРБАНАТА МАГНІЯ. ГЭТА САМАЕ АБСАРБІРУЮЧАЕ РЭЧЫВА НА ЗЯМЛІ. ЯНО ПАКРЫТА ТАКОЙ КОЛЬКАСЦЮ ПОР, ШТО ЎСЯГО АДЗІН ГРАМ МАЕ ПАВЕРХНЮ ПЛОШЧАЙ У ВОСЕМСОТ МЕТРАЎ.
ТАКІМ ЧЫНАМ, ЧЫМ БОЛЬШ ТЫ СУПРАЦІЎЛЯЕШСЯ, ТЫМ БОЛЬШ ВАДКАСЦІ ЯНО ЎСМОКТВАЕ З ТВАЙГО ЦЕЛА. ЦЯПЕР ПАГЛЯДЗІ НА МЯНЕ. СКАЖЫ, ХТО ЗРАБІЎ ГЭТА.
Я ГЛЯДЖУ НА ЦЯБЕ І БАЧУ МЕРЦВЯКА. І ТОЛЬКІ.
ПРАКЛЁН НА ТВАЮ ГАЛАВУ, АРТУР! ХТО ГЭТА ЗРАБІЎ?!
БЭТМЭН...


ШТО ТАКОЕ?
МЫ ЗАЎВАЖЫЛІ РУХ. ДА ЦЯБЕ НАКІРОЎВАЕЦЦА ШТОСЬЦІ ВЯЛІКАЕ.
СЭР, ВАМ ЛЕПШ...


Я ЗАСТАЮСЯ ТУТ. ГЭТА АДЗІНАЕ БЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА ДЛЯ БОЙКІ З ІМІ.
БУДЗЬ ГАТОВЫ РЭАГІРАВАЦЬ.


КАЛІ ГЭТА ВІК, ЭЛЕКТРАМАГНІТНАЯ НЕЙРАПАСТКА НА ГАТОВЕ.
ХЭЛ – У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ЖОЎТЫ АПРАМЯНЯЛЬНІК.
АЛЕ КАЛІ ЛАСКА, КАЛІ ЛАСКА, НЯХАЙ ГЭТА БУДЗЕ НЕ ЁН...

BOOM












ПРЫВІТАННЕ, БРУС.

ПРАБАЧ ЗА ТВОЙ «ЛІГАСУПРАЦІЎ-ЛЕНЧЫ» КАСЦЮМ-ЧЫК.

КЛАРК... УХ... КАЛІ ЛАСКА.

...ПЕРААДО-ЛЕЙ ГЭТА І **СКАЖЫ** МНЕ.

ХТО ГЭТА ЗРАБІЎ З ТАБОЙ?



«…ГЭТА, УВОГУЛЕ, ТРОХІ… ПАЦЕШНА».
Heh.
ХА.
НЕ… НЕ, ТОЛЬКІ НЕ ЁН!
О ТАК, БРУС…
…І ГЭТЫМ РАЗАМ ЦЯБЕ НІХТО НЕ ЎРАТУЕ!
НА НА НАНА НАНА НАНАНА!
NEXT: HE'S BAAAAAAAACK!
ДАЛЕЙ: ЁН ВЯРНУЎСЯ!


АКРУГА КЕЙН.
22 КІЛАМЕТРА АД МАЁНТКА АРКХЭМАЎ.
THE PALE MAN
Written by JAMES TYNION IV Art by KELLEY JONES
Color by MICHELLE MADSEN Letters by DEZI SIENTY
БЛЕДНЫ ЧАЛАВЕК
НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ, ШТО ТЫ ЎГАВАРЫЎ МЯНЕ НА ГЭТА, **ЭРЫК**... Я ПАВІННА ВЯРНУЦЦА ВЕСЦІ ПОШУК. Я ПАВІННА **ШТОСЬЦІ** РАБІЦЬ.
ПАВЕР МНЕ, **МАХРЫН**, Я ВЕДАЮ, ШТО ТАБЕ ТРЭБА.
ТАБЕ ТРЭБА ПАЙСЦІ ДАДОМУ. АДПАЧНУЦЬ. У МЯНЕ Ў **АРКХЭМЕ** ЎСЁ ПАД КАНТРОЛЕМ.
ГЭТЫЯ **ПЯЦЬ ПАЦЫЕНТАЎ**, У СУМЕ ЯНЫ ЗАБІЛІ СОТНЮ ЧАЛАВЕК ЗА ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ. УСЁ ЯШЧЭ НЕ МАГУ ЎЯВІЦЬ, ЯК ЯНЫ **ЗБЕГЛІ**.
ВЕДАЕШ... ЯНЫ ПАВОДЗІЛІ СЯБЕ **ДЗІЎНА** АПОШНІЯ НЕКАЛЬКІ НАЧЭЙ. Я БАЧЫЛА, ЯК **МІСІС ЧЭН** СМЯЕЦЦА САМА З САБОЙ... РАЗУМЕЕШ, ЯНА НЕ СКАЗАЛА НІ СЛОВА ЗА ДЗЕСЯТКІ ГАДОЎ.
І ГЭТЫЯ МАЛЮНКІ... УСЕ ПРА **ЯГО**.


У ПЯЦІ З ІХ НЕ БЫЛО НІЧОГА АГУЛЬНАГА. У ІХ ТАКІЯ РОЗНЫЯ ПРАБЛЕМЫ. ІХ КАМЕРЫ НАВАТ НЕ РАЗАМ.
ГЭТА **СНОЎ** ПРЫЗНАЎСЯ, ШТО БАЧЫЎ ШТОСЬЦІ. СКАЗАЎ, ШТО ЧУЎ **ГІСТОРЫЮ**. ШТО ЯНЫ ЎСЕ ЧУЛІ. АЛЕ ЁН НЕ СКАЗАЎ, ЯКУЮ.
УСЁ КАЗАЎ: «ЯШЧЭ НЕ, ЯШЧЭ НЕ, ЯШЧЭ НЕ...»


Я ВЕДАЮ, АБ ЧЫМ ТЫ ДУМАЕШ, МАХРЫН, АЛЕ ГЭТА **НЕМАГЧЫМА**. ТАКОЙ СІСТЭМЫ БЯСПЕКІ Ў МАЁНТКУ АРКХЭМ ЯШЧЭ НЕ БАЧЫЎ, І НЯМА ПРЫКМЕТ ПАРУШАЛЬНІКАЎ.
І ЁН... КАЖУЦЬ, ЁН МЁРТВЫ. НІШТО НЕ ЎКАЗВАЕ НА ТОЕ, ШТО ЁН, **МАГЧЫМА**, ВЯРНУЎСЯ.
ЯК ЖА Я ХАЦЕЛА Б, КАБ МНЕ АД ГЭТАГА СТАЛА ЛЕПШ.
MORTON WALES
EPHRAM SNOW
MRS CHEN
CORDELIA DOE


ДОБРА, Я ДОМА. ТЫ ГЭТАГА ХАЦЕЎ, САПРАЎДЫ?
Я ПАСПЛЮ ТРЫ ГАДЗІНЫ І ВЯРНУСЯ Ў МАЁНТАК. ТРЭБА ЗНАЙСЦІ ІХ, ЭРЫК. ПАКУЛЬ ЯНЫ НЕ ПАКРЫЎДЗІЛІ КАМУ-НЕБУДЗЬ.


М-МЫ НЕ ХОЧАМ НІКОМУ ПАКРЫЎДЗІЦЬ.
С-СПРАВА НЕ Ў ГЭТЫМ.


ЯНА ПРЫЙШЛА.
ДОБРА. ДОБРА, ДОБРА, ДОБРА. ЦЯПЕР МЫ МОЖАМ ПАЧАЦЬ.


НЕ... НЕ. НЕ КРЫЧЫ.
НАМ ТРЭБА РАСКАЗАЦЬ ТАБЕ.


ХТО ПАЧЫНАЕ?.. Я НЯ ПАМЯТАЮ...


**ЗНАКІ**... ЁН СКАЗАЎ, ШТО БУДУЦЬ ЗНАКІ.


ХІ...
...ХІ, ХІ....


ВОСЬ! ВОСЬ!


ГЭТА РОГІ... ГЭТА ЯГО РОГІ... УСЁ ТАК. ЁН СКАЗАЎ, ШТО ЎСЁ ТАК І АДБУДЗЕЦЦА.
ЁН НІЧОГА НЕ КАЗАЎ ПРА РОГІ.
**НЕ! УСЁ ТАК! ВОСЬ ЖА ЯГЫ!**


ЭФРАМ... ГЭТА ПРОСТА ГАЛІНКІ. Я ПАСТАВІЛА ІХ РАЗАМ З КВЕТКАМІ.
**НЕ ХЛУСІ МНЕ!**
ТРЭБА ВЯРНУЦЬ ВАС УСІХ НАЗАД У МАЁНТАК. ГЭТА ШКОДНА ДЛЯ ВАС. ТУТ ВЫ НЕ Ў БЯСПЕЦЫ.


ЁН СКАЗАЎ, Т-ТАМ ТАК САМА НЕБЯСПЕЧНА.
ХТО СКАЗАЎ?
МІЛЫ ЧАЛАВЕК, ПАДОБНЫ НА БЛАЗАНА...


ЁН НЕ ЧАЛАВЕК.
Д-ДЖОКЕР. **ДЖОКЕР** ПРЫЙШОЎ ДА НАС.
ВІДАВОЧНА НЕ ЧАЛАВЕК.


САПРАЎДЫ, КАРДЭЛІЯ... ГЭТА НЕ ЧАЛАВЕК ПРЫХОДЗІЎ ДА НАС. ГЭТА БЫЎ МОЙ СПАДАР. ВЯРНУЎСЯ ПАСЛЯ СТОЛЬКІХ ГАДОЎ.
ВЫСЛУХАЙЦЕ НАС, ДОКТАР. НАМ **ЁСЦЬ**, ШТО РАСКАЗАЦЬ...
...ТРЫ ДНІ НАЗАД Я БАЧЫЎ ЯГО. Я ЎПЕРШЫНЮ ЎБАЧЫЎ ЯГО ЗА **ДВАЦЦАЦЬ** ГАДОЎ. ЁН ПРЫЙШОЎ У МАЮ КАМЕРУ І ШАПТАЎ МНЕ.


ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ... ДЖОКЕР БЫЎ АКТЫЎНЫ ЎСЯГО **ПЯЦЬ**.
**ГЭТА ЁН І ХАЦЕЎ ВАМ СКАЗАЦЬ!**
ГЭТАГА ЁН І ХОЧА. НІХТО НЕ РАЗУМЕЕ, ХТО ЁН **НА САМОЙ** СПРАВЕ.


ТАДЫ ХТО ЁН, ЭФРАМ?


**«Д'ЯБАЛ».**
«САМ Д'ЯБАЛ».


«Я ЎСЁ ЯШЧЭ ПАМЯТАЮ ТУЮ НОЧ, ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ НАЗАД. УСЁ ЗАСМУЧАЕЦЦА, КАЛІ ВЫ ПРЫМУШАЕЦЕ МЯНЕ ПРЫМАЦЬ ТАБЛЕТКІ, АЛЕ Я ЎСЁ ЯШЧЭ ПАМЯТАЮ».
«Я ЗНАЙШОЎ СЦЯЖУ, ЯКОЙ НЕ БЫЛО ДА ТОЙ НАЧЫ І НЕ БЫЛО ПАСЛЯ ТАГО».
«І НА ТОЙ СЦЯЖЫ БЫЛО СКРЫЖАВАННЕ... І ЁН ПРЫЙШОЎ ДА МЯНЕ ТАМ. ЁН СКАЗАЎ МНЕ, ШТО Я ПАВІНЕН ЗРАБІЦЬ».


«ГЭТА НЕ БЫЛО ПАДОБНА НА КАЗКУ».
«ЁН НЕ БЫЎ ЧЫРВОНЫМ, З РАГАМІ І КАПЫТАМІ... ЁН БЫЎ **ВЫСОКІМ І БЛЕДНЫМ**».


«І КАЛІ ЁН УСМЕХАЎСЯ, Я БАЧЫЎ АДЛЮСТРАВАННЕ **ПЕКЛА** Ў ЯГО СКРУКАВАНЫХ ЗУБАХ».
«А КАЛІ ЁН СМЯЯЎСЯ, Я АДЧУВАЎ, ЯК ПЛАМЯ Ў КОСТКАХ ВЫПАЛЬВАЕ МЯНЕ, ПЕРАТВАРАЮЧЫ МЯНЕ Ў ЯГО РАБА. **НАЗАЎЖДЫ**».


«ЁН РАСКАЗАЎ МНЕ ПРА ДЗЯЎЧЫНАК... ДЗЯЎЧЫНАК, ЯКІХ ЁН ХАЦЕЎ ВЯРНУЦЬ. ЁН РАСКАЗАЎ МНЕ, ДЗЕ ІХ ЗНАЙСЦІ. ІХ ТАЕМНЫЯ МЕСЦЫ».
«РАСКАЗАЎ, ЯК **ПАДАРАВАЦЬ** ІХ ЯМУ».


ЭФРАМ... ТЫ СТОЛЬКІ РАЗОЎ РАЗКАЗВАЎ МНЕ ПРА ГЭТУЮ НОЧ. ТЫ МЯНЯЕШ ПАДЗЕІ. ТЫ НІКОЛІ НЕ КАЗАЎ, ШТО...
**НЕ!** Я ПРОСТА НЕ РАЗУМЕЎ. НЕ РАЗУМЕЎ, ШТО ГЭТА БЫЛО.
ЁН ЗАГАДАЎ МНЕ! ЁН ПРЫЙШОЎ ДА **МЯНЕ І ЗАГАДАЎ**!
**ДЖОКЕР!**


BAPHOMET


ХЕХ...


ХЕХ ХЕХЕХЕ ХЕ ХЕЕЕ


ХТО... ХТО ТАМ...
НЕ ПААААМЯ-ТАЕШ МЯНЕ, ЭФРАМ?


НЕ ПАМЯТАЕШ, ЯК ГЭТА БЫЛО? КАЛІ МОЙ СМЕХ АХІНАЎ ТВАЮ ДУШУ? КАЛІ Я ПАДПАРАДКАВАЎ ЦЯБЕ ?


ЁН ДУМАЎ, ШТО ПЕРА-МОГ МЯНЕ... ЁН ДУМАЎ, ШТО ЗМОЖА АБАРАНІЦЬ ГОРАД АД МЯНЕ НАЗАЎЖДЫ... АЛЕ ДЛЯ МЯНЕ НЯМА ВЕЧНАСЦІ.
Я САМ – ВЕЧ-НАСЦЬ.


ПРОСТА ПРЫХОДЗІЦЦА ЎСКАРАСКІВАЦЦА НАЗАД КОЖ-НЫ РАЗ... СКРОЗЬ АГОНЬ, СКРОЦЬ СЕРУ... ПРАХОДЗІЦЬ УВЕСЬ ГЭТЫ ШЛЯХ З МАЙГО ЦАРСТВА.
НАЗАД СЮДЫ. У МОЙ САПРАЎДНЫ ДОМ.


НІХТО НІКОЛІ НЕ РАЗУМЕЎ, ХТО Я НА САМОЙ СПРАВЕ. УСЕ ДУМАЮЦЬ, ШТО Я ЗВЫЧАЙНЫ ЧАЛАВЕК, АЛЕ ГЭТА **ЖАРТ**, ЦІ НЕ ТАК?


ГЭТА **ЗАЎСЁДЫ** БЫЛО ЖАРТАМ.


ЦЯПЕР СЛУХАЙ... МНЕ ЁСЦЬ, ШТО РАС-КАЗАЦЬ. ТАБЕ І ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІМ ЧАЛАВЕ-КАМ...
...І МНЕ ТРЭБА, КАБ ВЫ ШТОСЬЦІ **ЗРАБІЛІ** ДЛЯ МЯНЕ.
ЦЯПЕР СЛУХАЙ...


ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА ПЕКЛА, **ДОКТАР ЗАХІР**?
ЁН ПАД ГОТЭМАМ. ЁН ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ТАМ.


ВОСЬ, ШТО ЁН МНЕ РАСКАЗАЎ.
ГЭТА... І ТОЕ, ШТО Я ПАВІНЕН БЫЎ ЗРАБІЦЬ...


К-КАЛІ ЛАСКА... НЕ РАБІЦЕ МНЕ БОЛЬНА.


Я Ж КАЗАЎ. МЫ ТУТ, НЕ КАБ НАШКОДЗІЦЬ ВАМ.
ТАДЫ... ТАДЫ ЧАГО ВЫ ХАЦІЦЕ...
ЁН СКАЗАЎ, ШТО ЯМУ ПАТРЭБНЫ **СЛУХАЧЫ**. А ВЫ... ВЫ ХАЦЕЛІ **ПАЧУЦЬ**, ШТО АДБЫЛАСЯ... АСТАТНІЯ ПРОСТА СМЯЯЛІСЯ. А ВЫ ХАЦЕЛІ ПАЧУЦЬ.


МЫ ТУТ, КАБ ДАЦЬ ВАМ **МЕНАВІТА** ТОЕ, ЧАГО ВЫ ХОЧАЦЕ.
ПЯЦЬ ГІСТОРЫЙ...
ПРОСТА ДАЗВОЛЬЦЕ МНЕ ВЯРНУЦЬ ВАС... Я ВЫСЛУХАЮ ЎСІХ І КОЖНАГА...


НЕ! ТАК НЕ АТРЫМАЕЦЦА!
ЁН СКАЗАЎ, ШТО ТАК НЕ АТРЫМАЕЦЦА!


ТРЭБА ІСЦІ Ў ГОРАД. ТРЭБА ІСЦІ ТУДЫ, КУДЫ ЁН СКАЗАЎ. ІНАЧ МЫ МОЖАМ ПРАПУСЦІЦЬ ЯГО СІГНАЛЫ. ЯГО ЗНАКІ.
У ГОРАД?
ТАК! ВЫ АДВЯЗЕЦЕ НАС!


ШТО ІНАЧ?


ЗАБІЦЬ, ЗАБІЦЬ, ЗАБІЦЬ!
РВАЦЬ, РВАЦЬ, РВАЦЬ!
ХІІІ!


ВЕДАЕЦЕ, ЁН ЗВАР'ЯЦЕЛЫ... УСЁ БЫЛО ПА-САПРАЎДНАМУ. **НЕ** ТОЕ, ЯК ДЖОКЕР ВЯРНУЎСЯ...
НЕ САМОЙ СПРАВЕ...
**НЕ!** ГЭТА НЕ ПА ПРАВІЛАХ. **ТВАЯ** ЧАРГА ЯШЧЭ НЕ ПРЫЙШЛА.


ПРОСТА СКАЖЫЦЕ, КУДЫ МЫ НАКІРОЎВАЕМСЯ. СКАЖЫЦЕ, НАВОШТА...
МЫ ЕДЗЕМ ЎБАЧЫЦЬ **ЯГО**. ПРАМА ДА КАНЦА. ПРАМА, КАЛІ ГЭТА АДБУДЗЕЦЦА.


ЧАМУ ВЫ ХОЧАЦЕ ЎБАЧЫЦЬ ЯГО?
БО ЁН РАСКАЗАЎ КОЖНАМУ З НАС ГІСТОРЫЮ...
...ЧЫЯ ГІСТОРЫЯ **ПРАВІЛЬНАЯ** – ПЕРАМОЖА. ЧЫЯ НЯПРАВІЛЬНАЯ...


«ПАМРЭ».
TO BE CONTINUED...